# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ
СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ
Орган ЦКЛКСМБ











№ 4 (22) 1926 г.

Старшыня Рэвваенсавету СССР і Народны Камісар ваенных і марскіх спраў
К. Я. ВАРАШЫЛАЎ.

# Што павінен рабіць комсамольскі актыў у вёсцы.

**З прамовы т. Сталіна.**

Аднэй з задач у працы Комсамолу зьяўляецца забясьпечаньне шматлікага актыву сялянскай моладзі ў вёсцы, палітычна выхаваць гэты актыў, зрабіць яго правадніком пролетарскай політыкі ў вёсцы, каб ён стаў цэмэнтам, які зьвязвае пролетарыят з працоўнымі гушчамі сялянства. Справа гэта цяжкая і ў вялікай меры складаная. Але як забясьпечыць комсамолу сялянскі актыў, як выхаваць гэты актыў і як дабіцца таго, каб ён мог быць правадыром пролетарскай політыкі ў вёсцы?

Кажуць, што адных сакратароў сялянскіх ячэек маецца ў комсамоле ня менш 27.000 асоб.

Кажуць, што, акрамя сакратароў ячэек, маюцца актыўныя працаўнікі комсамольцы ў коопэрацыі, у саветах, у сялянскіх камітэтах, культурных установах і г. д. Кажуць, што ўсё гэта разам павінна даць ня менш 100.000 сялянскага актыву комсамолу. Ці праўда ўсё гэта,—цяжка сказаць. Але, калі ўсё гэта праўда, павінен сказаць, што гэты актыў пры ўмелым яго скарыстаньні можа скласьці найвялікшую моц, якая здольна на цуды. Гэта становішча тым больш важна тым, што партыя мае ў сваім распараджэньні ў вёсцы ў сучасны момант даволі меншы лік актыву. І вось задача: як выхоўваць гэты шматлікі актыў, як зрабіць яго правадыром пролетарскай політыкі ў вёсцы не на словах, а на справе?

Неабходна, каб вясковы актыў моладзі ведаў на зубок усе дэкрэты, умеў іх тлумачыць бедняку і ўмеў абараняць інтарэсы беднаты на падставе гэтых дэкрэтаў супроць насіл(ь)ваньня кулакоў. Комсамольскі актыў у вёсцы павінен стаць на ахове рэволюцыйнай законнасьці.

Ён павінен стаць гарой за беднату ў вёсцы. Задача гэта, бязумоўна, простая і прозаічная. Але бязумоўна таксама і тое, што бяз гэтага немагчыма ніякая змычка.

Неабходна, каб актыў вывучаў сельскую гаспадарку, знаёміўся з мерамі яе палепшаньня і ўмеў даваць селяніну неабходныя спраўкі ў гэтай галіне, маючы популярную брошуру па агрономіі. Селянін часта адносіцца да комсамольца нясур'ёзна, насьмешліва. Выходзіць гэта таму, што селянін лічыць яго адарваным ад гаспадаркі, гультаём, абібокам. Адсюль задача—зблізіць і зьвязаць комсамольца з гаспадаркай.

Комсамолец-актывісты можа заваяваць давер'е і пашану селяніна толькі ў тым выпадку, калі ён зблізіцца з сельскай гаспадаркай, калі ён навучыцца даваць каштоўныя саветы па палепшаньні сялянскай гаспадаркі, па яе замацненьні. Справа гэта, вядома, нялёгкая і, можа быць, нават скучная. Але гэта не перашкаджае ёй быць справай неабходнай дзеля таго, каб заваяваць давер'е сялянства.

Падатак і мясцовы бюджэт—першая справа цяпер у вёсцы.

На гэтым грунце адбываюцца цяпер непералічымыя злачынствы.

Як разьмеркаваць падаткі, каб бядняк ня быў пакрыўджан, а кулак ня быў аслаблен ад падатковых цяжар; як расходваць грошы па мясцовым бюджэце і на якія іменна патрэбы; як дабіцца таго, каб злачынствы на гэтым грунце былі выкрыты і зьнішчаны,—усё гэта такія пытаньні, міма якіх ня можа прайсьці комсамолец-актывісты. Умешвацца ўва ўсю справу і прысьці на дапамогу працоўнаму селяніну—яго задача.

Неабходна, каб комсамолец-актывісты ведаў на зубок палажэньні аб правох і абавязках мясцовых саветаў, аб правох і абавязках сялян у ваднасінах да саветаў, аб выбарчай сыстэме, аб парадку прахаджэньня выбараў і г. д.

Растлумачыць сялянству політыку партыі і Савецкае ўлады ў вёсцы, дабіцца таго, каб політыка гэта праводзілася ў жыцьцё правілова і чэсна,—чарговая задача.

Неабходна, каб комсамолец-актывісты ўмеў уцягваць сялянства ў справу падняцьця коопэрацыйнай грамадзкасьці ў вёсцы. Справа гэта ў найвялікшай меры цяжкая і складаная, але яна абсолютна неабходная дзеля таго, каб прыцягнуць вёску да соцыялістычнага будаўніцтва. Сельска-гаспадарчая і крэдытная коопэрацыя маюць цяпер найважнейшую значнасьць для селяніна. Дабіцца таго, каб коопэрацыя стала роднай і блізкай для сялянства справай—у гэтым задача.

Належыць пры гэтым зьвярнуць увагу на тое, што без'інвэнтарнасьць бядняцкіх слаёў сялянства ўтварае ў вёсцы асобныя абставіны, якія дапамагаюць організацыі арцеляў і колектыўных гаспадарак пры вядомай дапамозе з боку крэдытных установ дзяржавы. Задача зьяўляецца ў тым, каб бядняцкія слаі сялянства мелі магчымасьць атрымаць пры гэтым адпавядаючы льготны крэдыт. Комсамолец-актывісты ня можа разьмінуцца з гэтымі жыцьцёвымі пытаньнямі.

Патрэбна, каб комсамольскі актыў у вёсцы меў неабходныя ўказаньні і матэрыялы па культурным будаўніцтве ў вёсцы—па разьвіцьці хат-чытальняў, ліквідацыі няпісьменнасьці і інш.

Актывісты-комсамолец, як натуральны памоцнік саветаў і наогул культурнай моцы ў вёсцы па падняцьці савецкай культуры павінен гэта ведаць.

Неабходна, каб актывісты-комсамолец глядзеў на сябе, як на памоцніка партыі і Савецкай улады ў вёсцы. Камандаваньне ў вёсцы, непарадкі ў часе выбару ў саветы, папыткі падмяніць партыйныя, коопэрацыйныя і савецкія організацыі, хуліганскія выхадкі пры так званай антырэлігійнай пропагандзе,—усё гэта павінна быць адкінута і ліквідавана зараз-жа, як недастойнае комсамольца і што па-

II-гі ГОД ВЫДАНЬНЯ

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі






№ 4 | Люты 1926 г. | Менск

**Аснаўная задача к дзевятаму году існаваньня Чырвонае арміі—як і раней далейшае ўмацаваньне, паляпшэньне баявой падрыхтоўкі чырвонаармейцаў, павялічэньне іх політычнай сьвядомасьці, захаваньне жалезнай дысцыпліны і павышэньне агульнага культурнага ўзроўню. Варашылаў.**

# Хочаш міру—рыхтуйся да вайны

23 лютага дзень сьвяткаваньня 8 гадавіны Чырвонае арміі.

Капіталістычныя дзяржавы пад гутарку аб разброеньні яшчэ больш узбройваюцца. Павялічваецца лік іх арміі, узрастае іх ваенная тэхніка. Гэты ўзрост узброеньня капіталістых не выклікаецца толькі супярэчнасьцямі між імі, але, галоўным чынам, уздымам экономічнай і політычнай моцы СССР. Ня гледзячы на мірныя мэты, якія стаяць перад СССР, капіталістычны сьвет бачыць у гэтым уздыме галоўную небясьпеку для свайго існаваньня і рыхтуецца да барацьбы. Магчымасьць нападу на нас цяпер ня меншая, чымся некалькі гадоў таму назад. І гатоўнасьць даць на напад дружны адпор—галоўная задача працоўных СССР, якія могуць разьлічваць пераважна на сваю організаванасьць і моц.

Моц нашае Чырвонае арміі—ва ўсьвядомленьні мэтаў і задач абароны мірнае працы рабочых і сялян, у яе цеснай сувязі з усімі працоўнымі краіны. Толькі тады мы здолеем даць належны адпор, калі ў часе нападу ўся краіна зробіцца ваенным лягерам. Трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на замацаваньне яе сувязі з шырокімі масамі працоўных. Сувязь гэта павінна выявіцца на ўсямернай дапамозе Чырвонай арміі з боку шэфскіх, грамадзкіх організацый і рабоча-сялянскіх мас, у шырокай дапрызыўнай ваеннай падрыхтоўцы моладзі, усьвядомленьні працоўнымі масамі ролі і значэньня ў сучасны момант Чырвонае арміі, яе міліцыйнае сыстэмы.


Камандзір Беларускай дывізіі т. Лакціонаў.

Калі сусьветная буржуазія ня можа разьлічваць на пасылку супроць нас шырокіх мас узброеных працоўных сваёй краіны, дзякуючы ўзросту іх сымпатый да Савецкага Саюзу, дык яна заўсёды знойдзе досыць „сваіх“ людзей, каб зьнішчыць нас пры дапамозе паветранае флёты і атручваючых газаў. Паветраная і хэмічная абарона пры гэткіх абставінах высоўваецца на першае месца. Савецкая Беларусь мяжуецца непасрэдна з капіталістычным сьветам.

У выпадку вайны Савецкая Беларусь можа адразу апынуцца ў непасрэдных баявых абставінах. Жыхарству Беларусі прыдзецца сустрэцца з усімі дасягненьнямі вайсковае тэхнікі.

Самалёты, якія цэлымі эскадрыльлямі будуць зьяўляцца ў тылу, могуць прыносіць



вялікую шкоду, руйнуючы чыгуначныя вузлы, розныя склады, фабрыкі, заводы, а таксама й мірных жыхароў. Роль цяжкой артылерыі будзе бязумоўна ўзмоцнена. Лік кулямётаў і аўтоматычных стрэльбаў павялічыцца. Будуць працаваць спэцыяльныя хэмічныя каманды, мэтай якіх будзе труціць газамі ворага, а часамі й мірных жыхароў.

Вядома, што ня трэба ўдавацца ў паніку ад думкі пра будучую вайну. Наадварот, трэба спакойна абмеркаваць будучыя небясьпекі і бязупынна з дня ў дзень рыхтавацца да будучай барацьбы.

Мы знаем, што паміж капіталістычных краін ёсьць шмат такіх супярэчнасьцяй, якія не дазваляюць ім напасьці на нас і раздушыць нас. І мы, карыстаючыся перадышкай, прыводзім свае рады ў баявую гатоўнасьць.

Чырвоная армія за апошнія гады пазбылася вострых недахватаў у абмундыраваньні і харчох. Цяпер камандзір і політпрацаўнік ужо сваю энэргію цалком аддаюць на баявую падрыхтоўку чыр-цаў. Часьці Чырвонай арміі, якія стаяць у Заходняй вайсковай акрузе, добра разумеюць, што ім прыдзецца схапіцца з моцным ворагам, якога голымі рукамі ня возьмеш. І ўсе байцы з вялікай ахвотай аддаюць сілы вайсковай вучобе. Вялікую ўвагу камандаваньне аддае падрыхтоўцы авіацыі, інжынэрных войск, хэміі.



Вайсковы камісар Беларускай дывізіі тав. Юдзін.

Працоўныя Беларусі павінны знаць, што на заходняй мяжы стаіць моцны заслон. Але гэтага мала. Рабочыя й сяляне Беларусі павінны цьвёрда ўразумець, што ў самым пачатку вайны армія патрабуе мільёны выўчаных вайсковай справе грамадзян, што трэба будзе здаволіць запатрабаваньні арміі ў дастаўцы і транспорце. І яшчэ будучая вайна патрабуе таго, каб кожная фабрыка, кожны чыгуначны вузел, кожная вёска падрыхтавалася да абароны, навучылася маскіравацца ад ворага і хутка аднаўляць зруйнованае.

У вёсцы павінна быць моцнае ядро з адпускнікоў, пераменьнікаў, дапрызыўнікаў, якія павінны сачыць з дня ў дзень за вайсковай работай і рыхтаваць з сябе добрых стральцоў, сапёраў і г. д.

Гэта, вядома, вельмі трудная задача, але такая падрыхтоўка да вайны адаб'е ў нашых ворагаў ахвоту торкаць свой нос у нашы ўнутраныя справы і забясьпечыць канчатковую пабеду.

Дый ці нам прывыкаць да труднасьцяй! Створым броніраваны кулак па заходняй мяжы!

Будзем напагатове!

**І. М.**



У часе адпачынку чырвонаармейцы гуляюць у шашкі.

# Сёмка Хруцкі.

*(З нізкі „Часы мінулыя“)*

Працяг, гл. „М. А.“ № 3—1926 г.

IV

Мястэчка было на ваенным становішчы. Франтавая паласа адлягала ад яго на трыццаць вёрст.

Бежанцы цэлымі абозамі праяжджалі праз мястэчка. У перамешку з імі праяжджалі і абозы вайсковых адступаючых частак.

Збожжа, ня гледзячы на тое, што ўжо была пара зьбіраць, аставалася некранутым на палёх...

Навокал мястэчка вырасьлі цэлыя колёны бліндажоў.

Глыбокія, у рост чалавека, рытвіны-акопы абкружалі заходнюю частку мястэчка ламанымі шнурамі.

Перад імі, напрацяг як вокам кінуць, быў наблытаны дрот. Блізкасьць фронту давала аб сабе чуць раскацістымі стрэламі.

Праўда, яшчэ ўсё жыхарства аставалася ў мястэчку, выехала толькі пошта, земскі начальнік і валасьць, але кожан з жыхароў мястэчка нічога не рабіў, рукі апускаліся...

З кута ў кут пахаджваў Пётра Хруцкі...

Чорныя думкі гнялі яго. Астаўшыся адзін з сынам, бяз жонкі, якую ён пахаваў паўтара тыдні таму ўзад, ён ня ведаў, што і рабіць...

Усплывалі вобразы з толькі што адбыўшыхся падзей. І сапраўды, было аб чым думаць і перадумваць Пётру...

Неяк у нядзелю жонка яго пашла ў царкву. Раніца была ясная, ня гледзячы на асеньні дзень.

Молячыся ў царкве, усе здрыганулі... Гэта адлеглая, у кроках дзесяці ад царквы, батарэя ударыла па прыляцеўшай у мястэчка эскадрыльлі нямецкіх аэроплянаў залпам.

У кожнага з прысутных у царкве мільганула думка хутчэй уцячы пад родную страху. Раптам усе кінуліся да выхаду—уцякаць.

Некаторая частка ўжо праціснулася праз дзьверы на пляц, але ў гэты момант скінутая з нямецкага аэроплану бомба, разарваўшыся на другім боку пляцу, аглушыла выбягаючых з царквы і з сілаю тыранаўскінула на паветра чалавечае і конскае мяса..

За ёй другая, трэцяя. А з царквы бацюшка, а з ім і стоячы бліжэй да яго народ крычэлі:

„Усе ідзеце ў дом божы, ідзеце пад апеку боскую“.

Гэтыя словы праз хвіліну распаўсюдзіліся па усяму натаўпу, і, паверыўшы ім, большая частка схавалася ў царкве...

Чацьвертая бомба з нямецкага аэроплану не палічылася і з апекай боскай, пахаваўшы пад руінамі будыніны прысутных...

На другі дзень пад вечар ля царквы вырасла высокая брацкая магіла, схаваўшая ў сабе нязьлічаны дагэтуль лік чалавечага мяса.

Сярод пахаваных у брацкай магіле была і Агата, жонка Пётры Хруцкага.

Вось чаму, ходзячы з кута ў кут па сваёй хаце, Пётра і няведаў, што рабіць астаўшыся адзін з Сёмкай.

Сёмка ў гэты час сядзеў на тапчане, прытуліўшыся сьпіной да печкі.

Сьмерць маткі крыху адбілася на яго настроі і ўжо цяпер ён ня быў тым прайдзі-сьветам, якім быў дагэтуль.

Гора здавіла яго дзіцячую бясьпечнасьць і выдзьвігала ўперад сталасьць і розум.

— Ну, што, тата,—перарваў цішыню ў хаце Сёмка,—як мы будзем далей жыць? Мамкі няма, мястэчка гатовіцца да вайны, я сёньня лётаў у Папоўшчыну, а там акопы... Ведаеш, мяне не прапусьцілі салдаты прайсьці каля іх. Янка, Мікітаў сын, што на татарскай слабадзе жыве, казаў мне, быццам салдаты ў акопах бонбы хаваюць, каб потым можна было іх кідаць у немца, во, чуў?

— Што будзе з усімі, дзетка, то будзе і з намі. Заработкі спыніліся, салдатні—хоць адбаўляй, а толку няма... Але, на тое і вайна, а што будуць людзі рабіць то і... на гэтым іхняя гутарка спынілася. Скрыпнулі дзьверы, і цень, доўгі цень, упаў на падлогу хаты Пётры Хруцкага.

— Вечар добры ў хату!—груба прагаварыла скрытая пакуль што ў цені фігура статнага чалавека, падыходзячага да сьвету.

Куранка з закапцелым шклом асьвяціла фігуру Каруся Сьцяпуты, суседа Пётры.

— А, гэта ты, Карусь, сядай, пагамонім!

— Ну, як жывем?—запытаўся Пётра, падсоўваючы шавецкі зэдлік да ног Каруся.

— Як жывем, як жывем. Што пытацца, калі сам добра ведаеш. Жывем, як і ўсе.

— Вось не пасьпелі вывезьці калоды з лесу, каб імі ўсьцілаць шлях, дык на табе—акопы прымусілі капаць, два разы езьдзіў, дрот вазіў на гэтыя тыркачы драцяныя загараджэньні, як называюць салдаты, а памойму на новыя шыбеніцы для салдат. Мала таго, што кулямі ды бомбамі травяць народ, ды яшчэ гэтыя камочкі блытаюць.

— А немец хутка прыдзе ў наша мястэчка...

— У Горадні ўжо немцы. Коўну забралі, Ліда ў немцаў. Хутка і ў нас будуць.

— Чуў я, братка, што народ гэты немцы нішто; прыватных не чапаюць, але калі рускага салдата ў палон возьмуць, дык у Нямеччыну адсылаюць. Во!

— А ў цябе чуваць што?

— Сам ведаеш, што і ў мяне чуваць, бяз жонкі астаўся—сам гаспадар. Ад праяжджаючых бежанцаў я чуў, што нашыя казакі сілком прымушаюць у бежанства ісьці; калі ня йдзеш—дык ізьменьнік, царскай волі падчыняцца ня хочаш. Адзін нават бежанец—паляк паказваў расьсечаныя плечы гарапнікам казака.

— Таго й глядзі, каб і ў нас гэтага ня было. А мне ў бежанства пашто ехаць: хатку сваю маю, парсючка да коляд на пудоў шэсьць выгадую, хопіць з мяне з Сёмкай, сам ведаеш, нікога больш у мяне няма. А на хлеб зараблю. Калі новых заказаў ня будзе, дык старыя боты чыніць буду, на тандэт рабіць буду, пражывём, толькі-б хутчэй ці тое ці сёе.

— Дый я так сабе мысьлю. Мне што. Ад куляй у горан схаваюся, калі хочаш, дык і ты можаш прысьці да мяне, калі прыдзе пара хавацца. Месца хопіць—сам ведаеш, горан вялікі.

Доўга яшчэ сядзелі Пётра з Карусём, абдумваючы, што й як прыдзецца рабіць, каб астацца ў жывых.

Сёмка слухаў доўга і ўважліва, урэшце сон зманіў яго, і ён, прыгрэты цяплом печкі, заснуў на тапчане, падаслаўшы пад бок кажух маткі-пакойніцы.

Бацька, скончыўшы гутарку з Карусём, калі апошні вышаў за парог, загасіў газьніцу і лёг спаць, ня рухаючы Сёмкі.

А водгаласкі стрэлаў з цяжкіх арудзьдзяў гулка раскатваліся па аколіцы. Немцы крок за крокам ішлі ўперад, адціскаючы ўсё ўзад і ўзад расійскую армію.

V

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ну, ну, чево стоишь, аль не знаешь, что собираться пора, немцы на носу, чрез денька два в селение придут—собирайся, да живее... без разговоров...

— А ты, баба, курицу то не лови, все равно не убережешь, собирайся, а не то...

— Ну, брось, старуха плакать, собирайся да уходи... останешся, немцы то изородуют...

І такія загады былі чутны па ўсім мястэчку.

З чырвонымі лямпасамі на сініх шараварах гайсалі па мястэчку казакі.

Нічога нельга было рабіць супроць волі „власть имущих", і пацягнуўся з мястэчка абоз новых бежанцаў, новых пакутнікаў, пакінуўшых на месцы насіджаныя гнёзды, хлеб на палёх і клеці з дабром.

Сярод гэтага абозу мы-б маглі знайсьці і павозку Пётры Хруцкага, на якой сядзеў і наш Сёмка, абвалены ванзэлкамі адзежы і ежы...

А на раніцу ад мястэчка асталося пажарышча і дзе-ні-дзе дагараючая з трэскам хата.

Вежы замку, што каля мястэчка, званіцы царквоў і касьцёлу нібы дэікім рогатам абдавалі паветра над былым мястэчкам...

Перастрэлка з выбухамі гармат уторыла рогату веж і званіц, зьмяняючы мірныя павевы на ваяцкія, на павевы вайны і зьнішчэньня. . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

VI

Калі-б хто захацеў прасачыць, дзе канчаюцца тыя павозкі, крытыя палатнянымі будамі, пад якімі сядзелі цэлыя сем'і бежанцаў, дык канца не дачакаўся-б. Канчаецца адзін абоз, з-за горкі паказваецца другі, прамільгане другі, выяжджае з-за небасклону трэці, пяты, дзесяты, соты...

Кожны абоз—адна вёска.

Часам некалькі абозаў зьліваюцца ў адну вераніцу, канца якой дачакацца вельмі цяжка...

Кожная павозка—цэлая хата.

На павозцы звалены і адзежа ў ванзэлках, і хатнія прылады, і малыя дзеці.

За павозкай ідуць адна-дзьве каровы, кугікаюць сьвіньні, навязаныя ўпоперак, на доўгіх вяроўках. Авечкі бляюць, нібы плачуць па пакінутых родных сенажацях і выганах, дзе яны прывольна разгульвалі месяц-два таму ўзад...

Напінаюцца бедныя, няўзрачныя бежанскія коні-кі, цягнучыя за сабою набітыя ўсялячынай павозкі.

Панурыя плятуцца гаспадары, трымаючы ў руках лейцы і пануквуючы на няўзрачных конікаў.

Сустрэць можна было і бежанцаў, якія на сьпіне несьлі свой самы неабходны скарб.

За імі гурбой плялася ледзь-ледзь дзетвара, гэтак сама нясучы кожны што,-небудзь з неабходнага, той рандэлек, той хлеб, той, больш узрослы, ванзэлак адзежы.

Куды йшлі—ня ведалі, чаго йшлі—таксама ня ведалі. А йшлі, куды ўсе йдуць...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

VII

Абоз таго мястэчка, дзе жыў наш Сёмка Хруцкі, быў вялікі. Падвод з сотні чатыры.

Вёска за вёскай аставалася ўзадзе абозу, а абоз ехаў усё ўперад і ўперад, астанаўліваючыся нанач, каб адпачыць...

Часам мястэчка, падобнае да мястэчка, дзе жыў Сёмка, траплялася праяжджаць абозу. Ня выходзілі тады жыхары з вуліцы і ўсё глядзелі, усё пыталіся, адкуль, куды...

Далёка ўжо ад'ехаў абоз ад свайго мястэчка. Язда на конях без адпачынку зрабіла сваю справу і ўжо паклала значны адбітак на тварах уцекачоў...

Абоз з Сёмкавага мястэчка ехаў на Паваложжа.

Даўно ўжо мінулі нашы гушчарні хваёвага лесу, на зьмену ім прышоў прывольны стэп. Лік дзён у дарозе ўцекачамі даўно ўжо быў згублен. Толькі і ведалі, што пасьля начлегу ехаць, пасьля язды адпачываць...

Нячутно ўжо было бляяньня авечак, піску сьвіней. Дзе-ні-дзе траплялася ўгледзець прывязаную да воза каровіну...

Была глыбокая восень. Зеленеючы ўлетку стэп пашарэў, мясьцінамі бялелі белыя плямы сьнегу. Але што гэта? Раптам пярэднія падводы спыніліся, за імі спыніўся і ўвесь абоз. З аднае падводы было зьнята счарнеўшае чалавечае цела. Мужчыны ўзяліся за рыдлёўкі. Насьпех быў выкапаны дол каля высокага кургану. Бежанцы зьбіліся ў кучу над долам... Бабы пачалі плакаць... Нехта прынёс чыстую кашулю... А крыху пачакаўшы, побач з курганам-волатам, вырас маленькі бугарок. Розьніца толькі ў тым, што першы ўжо аброс кавылём, быў шэры, а другі яшчэ быў чорнай, з сіняватым водблескам плямай... Але гэтая чорная пляма не парушыла фарбы абкружаючай бежанскі абоз прыроды, бо шэрань зусім блізка паходзіць да чарнаты.

Карусь Сьцяпута ўсё-ж ткі недзе адшукаў кавалак дошчачкі, насьпех нязграбна словы вывеў:

— **Сёмка Хруцкі, бежанец, гадоў з 12. Вечная памяць.**

* * *

— І трэба-ж было яму...

— Галодны быў, з голаду...

Так гутарылі вярсты са тры едучыя на Паваложжа бежанцы, а ўрэшце—у кожнага сваё гора...

* * *

Праімчыцца бура, сарве з кучаравай бярозы лісьцік, закружыць яго ў плынь ветравіньня, аднясе далёка, далёка... а там кіне вобзем, прысыпе жвірам... І так зноў, новы лісьцік, за лісьцікам яшчэ лісьцік, а калі падыходзіць шэрая восень, аголіць бярозку, вецер і толькі абвіслыя галінкі журбуюць пра загубленыя лісьцікі. А на весну, адзяючыся зноў, гэтыя галінкі ад радасьці пачынаюць плакаць... Тады ў народзе чутно: хадзем піць бярозавы сок...

**Астаповіч.**



# Аднаго разу раніцаю...

*Апавяданьне з вайсковага жыцьця*

Малюнкі мастака Курганава

I

Была раніца. Вучэбны дзень у вайсковым гарадку толькі пачынаўся. У ротным чырвоным кутку пачалася політгадзіна, якую праводзіў сам камандзір роты. Чырвонаармейцы, усеўшыся навакол вузкіх, доўгіх, немалёваных сталоў, падпёршы свае падбародкі, з увагаю слухалі камандзіра роты, які гаварыў аб вайсковай тайне, а таксама аб даглядзе за сабою й за сваім вааружэньнем.

Сяргей, як заўсягды, ня любіў вылазіць наперад, а дзеля гэтага ён забіўся ў самы вугал і пачаў „важыць табаку".

— Хоць-бы абед хутчэй...—мільгацела ў думках,— а там і адпачынак... заснуць хоць-бы на поўгадзінкі... А гэты размазвае... і чаго размазвае... прасьці... оспадзі...

Павекі зьліпаліся. Цяляпаючы галавою, Сяргей час-ад-часу лыпаў вачыма й кідаў пагляд на камандзіра. У напоўзаспаных вачох усе чырвонаармейцы хваляваліся ў якімсь тумане, а галава камандзіра то рабілася маленькая, як гарэх, то павялічвалася да велічыні цэбра, у якім ён, Сяргей, насіў сваёй падласай сечку, калі йшчэ быў дома. Але, прымасьціўшыся выгодна ў кутку, Сяргей зноў зачыняў асалавелыя вочы.



Сяргей.

Камандзір роты казаў:

— Колькі людзей марна пагінула... І ўсё праз языкі... Цэлыя палкі гіблі... праз аднаго неасьцярожнага... Другі баец раздабрухаецца ды зачне выкладаць аб ліку байцоў, аб разьмеркаваньні часьцей... ну і...

У гэты момант Сяргей так моцна целяпнуў галавою, што, згубіўшы роўнавагу, чуць не зваліўся з зэдліка, але толькі на хвіліну расчыніўшы павекі, ён зноў пачаў драмаць.

Камандзір казаў далей:

—... Апрача таго... дагляд за вінтоўкаю павінен быць нараўне, як за сваім вокам... Раз вінтоўка не пачышчана, то гэта не баец, а баба з мешалкаю...

З вугла пачуўся моцны храп. Сяргей соладка спаў:

— Хр-р-р-рр... Хр-р-р-рр...

Камандзір роты павысіў голас:

— Сяргей, храпеш ужо, ці што?..

Сяргей усхапіўся, вылупіў вочы і, не разабраўшы пытаньня, бухнуў:

— Мулёк... гэта парожняе прастранства... у прыцэльнай рамцы... таварыш ротны...

З усіх бакоў пасыпаўся дружны рогат чырвонаармейцаў. Сяргей, адчуўшы, што сплёў нешта недарэчнае, але вясёлае, зарагатаў і сам, прыжмурыўшы вочы. Засьмяяўся й камандзір роты, але строга сказаў:

— Спаць, мой даражэнкі, на занятках не палагаецца. Глядзі, каб ня прышлося адсыпацца на губе (пад арыштам)... То-ж я не для сябе, а для вас усё гэта кажу...

А пасьля, быццам нічога й ня здарылася, абвёў поглядам павесялеўшых чырвонаармейцаў, рухам рукі супакоіў іх, і ўсё пашло зноў сваім парадкам.

— І вось, наша задача—узяць сябе ў рукі... цягнуў далей камандзір, — з увагаю прыглядзецца да самых сябе й да другіх, прывучаючыся к асьцярожнасьці ў гутарцы, якую мы часта вядзём з зусім незнаёмымі нам людзьмі... а таксама...

Пасьля трэцяга слова камандзіра, Сяргей, апусьціўшыся ў вугал, зноў заснуў.

II

Моцна брахалі сабакі, з-за плятнёў пагдядалі на праходзячых салдат дзеці й бабы. Вёска жыла вячэрнім жыцьцём; кудахталі куры, раўлі каровы, ля студняў скрыпелі жураўлі.

Другі ўзвод шостай роты з пабеднаю песьняю праходзіў праз вёску. Цямнела. З рэчкі падымаецца туман і песьня нікла ў ім:

... да брытанскіх марэй
Армія Чырвоная ўсіх мацней.
Дык хай Чырвоная...

Сяргей ішоў ззаду. З аднаго боку адшпіліўся шлем і шлёпаў яго. Пот рагамі сьцякаў па запыленым твары. Сяргей нават ленаваўся падняць руку,

каб зашпіліць шлем і абцерці пот. Ішоў ён разам з сваім прыяцелем Алёшкаю і ўсю дарогу скогліў:

— І куды гэта чортава... праваліласся... Нават крыжа з царквы ня відаць. Жраць, брат, хочацца... Дый... зноў такі... заснуць-бы ня шкодзіла-б. І скуль іх чорт нанёс, гэтых бандзюкоў?.. Жылі-б сабе ў казармах... Цяпер у іх такі прыемны халадок, так-бы й спаў...

Алёшка, захоплены ўвесь прыемнымі марамі аб халадку ў казарме, падтрымліваў:

— Дзіствіцельна, скажу... праўда... Выдумаюць-жа чэрці ў летнюю пару па бандах ганяць... Несупакой поўны... Ну, яшчэ дзякаваць, што хоць харчы вольныя... Усё бабка... яешню сьпячэ... і малачка... здорава...

Сяргей са злосьці плюнуў проста ў плечы свайму аддзялённаму, які йшоў сьпераду яго.

Вёска, у якую ўвашоў узвод, была багатая. Усе чырвонаармейцы з радасьцю ўдыхнулі знаёмы вясковы пах сушанага гною,—той пах, на які яны ўжо чуць не забыліся ў сухіх, чыста падмеценых казармах, дзе толькі пахне ружэйным маслам, потам ды дзёгцем з ботаў.

У вёсцы было неспакойна, бо па акрузе гуляла банда, якая адзначылася забойствамі і з якою ніяк не маглі саўладаць мясцовымі сродкамі.

Разьмяшчаліся па чатыры. Занялі шэсьць хат падрад. У хату з Сяргеем папаў яго прыяцель Алёшка і яшчэ два: Лабоцкі і Саковіч. Моцна грукаючы, увашлі ў хату. Сяргей азірнуўся й, зьняўшы з галавы шлем, важна перахрысьціўся. Перахрысьціўся й Алёшка.

Лабоцкі і Саковіч проста сказалі, зьняўшы шлемы: „Добры вечар“.

Перахрысьціўшыся, Сяргей паглядзеў на таўстую бабу й, апазнаўшы ў ёй гаспадыню, сказаў:

— Дай бог здароўя... а нам, госьцям, прывітаньне.

Алёшка таксама:

— Як у нас у Шклове... заўсягды з хлебам-сольлю спатыкаюць.

Лабоцкі і Саковіч паглядзелі адзін на другога поглядам, з якога відаць было, што яны вельмі нездаволены абхаджэньнем Алёшкі й Сяргея з гаспадыняю, але змаўчалі й пачалі зьнімаць з сябе знаражэньне.

Гаспадыня забегала па хаце з тэю шыбкасьцю, на якую яна была здольна, дзякуючы сваёй дзесяціпудовай хвігуры, і залапатала:

— Як-жа, родненькія... як-жа... Разьдзявайцеся... можа есьці хочаце... дык я зараз...

— Гэта будзе першай стацыёй,—адказаў за ўсіх Сяргей, кідаючы пад лаву вінтоўку, скатку, патроны й торбу.

Праз некалькі хвілін хлопцы ўжо сядзелі за пузатым сталом, а гаспадыня круцілася ля іх, падліваючы ў міску капусты.

Хлопцы моўчкі так наярывалі капусту, што аж скулы трашчэлі й вочы бегалі па хаце, якая паказвала, што яе гаспадар мала пазнаёміўся з рэволюцыяй і жыў з вялікім дастаткам.

Гаспадыня жалілася:

— Шынкаршчыкі мы... шынок свой мелі... Ну, а цяпер... перабіваемся з сухога на высушанае... Скуль тут могуць быць тыя дастаткі... Эх-хэ-хэх!.. Доля наша бядняцкая...

— Дык як-жа,—падтрымаў Сяргей,—вядомая рэч, жыцьцё...—і ён змоўк, прыляпіўшыся губамі да косткі.

Адчыніліся дзьверы, і ў хату ўвашоў сівы ўжо дзед, але на твары ў яго яшчэ прыкмецен быў румянец, а наперадзе тырчэла круглае пуза.

— Арляткі... здарова... здарова...—загукаў дзед.— Сяджу я гэта ў царкве... аж кажуць, што сябрукі нашы прышлі... на зьведы... Добра... Ну, запёр цэркаўку дый пашоў... Подлы народ цяпер зрабіўся... Эх-эх-эх!.. Панамаром я ў цэркві цяпер, та-а-ак... Дык вось бабы палавікі вытрасалі... а ты стой, так і глядзі—з рызьніцы што-небудзь сьцягнуць... Та-а-ак...

Хлопцы ўжо сёрбалі малако. Сяргей, пагладзіўшы жывот, сказаў:

— Пакутуеш ты... відаць гэта...

Панамар жыва адказаў:

— А як-жа, арляткі, а як-жа... Яшчэ ў пятым годзе давялося... пастрадаў я... Та-а-ак... Быў я гэта ў месьце. За гарэлачкаю езьдзіў... Сядзім гэта мы ў карчме... чэсьць чэсьцю... ну-у... Раптам па вуліцы натоўп... Наперадзе чырвоны сьцяг... і песьні пяюць... за рукі ўзяўшыся... Та-ак... Аж тут нашы казакі як наляцелі.. ды як пусьцілі ў работу бізуны... Вось гдзе было... мы перапалохаліся, хаця каб да нас не дашло... Дык, ці дасьцё вы, грамадзяне воіны, веры... тры саракоўкі з кішані зьлімонілі... вось сукіны сыны... можна сказаць...

Вылезьлі з-за стала. Лабоцкі і Саковіч адразу ўзяліся за вінтоўкі:

— Ну, пачысьціць трэба, ці што... Хадзем, хлопцы, да суседзяў, там застанавіўся Русецкі, там пачысьцім... ды газэты пачытаем... у яго заўсёды ёсьць...

Сяргей упёрся:

— На якое ліха. Яшчэ пасьпеем з козамі на торг. Не сягоньня-ж выступаць, а заўтра раніцаю.. Дый



Сяргэй важна перахрысьціўся.

можна сказаць, поўная несьвядомасьць на-конт баявых опэрацый; можа гэтай банды і зусім няма?.. Дык навошта організму перагружаць, калі яе да сну клоніць...

Панамар у знак згоды кіўнуў галавою:

— Вядома, вядома... Гэта праўда, арляткі... Цэлу

трэба даць адпачынак... А якая тут можа быць банда?.. Ціхія ўсе ў нас...

— Чорт іх ведае,—забурчэў сабе пад нос Алёшка, але яго можна было выразна чуць,—кажуць, што ў гэтай бандзе народу цэлая сотня будзе, а нас усяго трыццаць чалавек .. Калі ўжо пасылаць, то трэ' было ўсю роту...

— Ды што там? — сказаў лісьліва панамар.—Вы, грамадзяне воіны, не сумлявайцеся, а вось ляжце ды адпачніце. У мяне, як у бога за пазухаю: спакойна, малых няма . . усё.



Яшчэ ў 1905 годзе давялося...

дзякаваць богу, з старою ўдваіх перабіваемся .. Марыля! . пасьцялі хлопцам!..

Гвазьдзеў нахмурыўся:

— Ну, як вы сабе хочаце... Дарэмна вы гаўкаеце... А я пайду... Хадзем, Лабоцкі...

— Х-гм!..—кінуў ім усьлед Сяргей.—Яешневыя комсаплёўцы... Заўсягды так перад ротным выстаўляюцца... і другіх лезуць . . вучыць...

— Комсамольцы, значыць?—запыталася гаспадыня.—Бо то я гляджу, што яны ні перад ядою, ні пасьля яды не перахрысьціліся...

— Няўжо-ж хто... Яны, самыя чэрці... пацьвердзіў, выцягваючыся на лаве, Алёшка,—два разы мяне ў газэце насьценнай працягнулі...

Для Сяргея гаспадыня паслала на падлозе. У момант разматаўшы абмоткі й закінуўшы чаравікі пад лаву, пад якою ўжо ляжала куча яго прылад, ён выцягнуўся ва ўсю даўжыню свайго кароткага ўзросту. Не прашло й аднэй хвіліны, як насавыя завэрткі двух прыяцеляў зычна наярывалі марш:

— Фхр-р-ррр... Фх-р-р-хр-ррр...

Панамар паглядзеў са злосьцю на іх, паварочаў бельмамі, плюнуў і пазваў старую ў сенцы:

— Глядзі тут... а я ў момант у лес, у лагчыну... хлопцы там начуюць... трэба іх... А гэтых прахвостаў нямнога... Калі так, у момант—ад іх адзін дым будзе...

— Добра, добра, мой саколік. Яся сынка таксама пакліч .. даўно ўжо ня бачыла міленькага..—шаптала старая.

Панамар, зьнімаючы з крука вобраць, шыпеў:

— Як успомню пра 1918 год, як два мяшкі сала дарам забралі, аж сэрца кроўю абліваецца.

З хаты нёсься дружны храп.

Прашло некалькі гадзін Маладзік хаваўся ў хмарах Пеўні яшчэ ня пелі, як пад акном пачуліся стрэлы. Сяргей чуў страляніну, але не хацеў прачынацца, думаючы, што гэта ўсё яму сьніцца...

Але, калі куля, разьбіўшы ў акне шыбу, шмарганула Алёшку па брыві, Алёшка ўсхапіўся й залемантаваў ва ўсё горла:

— Сяргей!.. Сяргей!.. К аружжу!.. Трывога!.. Банды!.. Сяргей! . Сяргей!..

Сяргей з прасонку ўскочыў, стукнуўшыся галавою аб лаву, і пачаў гойсаць па хаце, ня ведаючы, што рабіць. Страляніна на вуліцы мацнела. Стралялі ля суседняй хаты. Алёшка ўсхапіўся, хваціў сваю вінтоўку й выскачыў на вуліцу. Праз хвіліну пачуўся гучны стрэл. У хату ўвалілася тоўстазадая гаспадыня. З левай рукі ў яе капала кроў.

— Прыяцеля .. твайго... зусім забіла... з ягонага ружжа... Разарвалася проста... і мне ў руку папала... куском...

Сяргей зусім згубіў розум.

— Дзе-ж мая вінтоўка... дзе мая вінтоўка!..

Пасьля, знашоўшы вінтоўку, Сяргей хацеў яе зарадзіць, але затвор моцна прыржавеў к магазынцы й не адчыняўся.

— Ой... караул... ой-ёй-ёй... няма штыха... забыўся... на тэй кватэры... ой-ёй...

У хату ўвалілася адразу пяцёх з голымі шашкамі. Панамар быў сьпераду. з наганам у руцэ.

— А-а а!.. сукін сын... Табе... Комунію .. На!..

Сяргею апаліла твар, нешта яго стукнула ў зубы, і ён пачуў пякучую боль языка. Сяргей паваліўся.

Вострыя шашкі, як гадзюкі, уядаліся ў Сяргеева цела, якое конвульсыйна ўздрыгвала...



Панамар быў сьпераду,
з наганам у руцэ.

III

— Ой... ой-ой!.. ё...ё...ё... татачка... мамачка... родненькія!.. Забіваюць... ні за хвунт дыму... Я ўжо памёр!..

Сяргей зваліўся з зэдліка, трахнуўшыся зубамі аб лаўку. Політгадзіна зноў перапынілася. Уся рота зарагатала яшчэ мацней, як у першы раз. Сяргей падняўся і, нічога не разумеючы, абвёў вачыма ўсю роту, трымаючыся рукою за пабітае места.

— Як-жа гэта... Га?..

Пот праняў Сяргея. Аглядаючы свае цела, ён ня прыкмеціў на ім знакаў ад шашак. Далей, убачыўшы Алёшку, які лопаўся ад сьмеху, запытаўся:

— Няўжо... прысьнілася... га?.. Ці-ж ты не забіўся?.. Алёша?.. Ці-ж мы не хадзілі ў паход на бандытаў?.. га?.. Ну й сон, проста як быццам і сапраўды...

І ў Сяргея ад успамін аб страшных бандыцкіх вобразах мароз драў па скуры, аж зубы ляскаталі...

Што-ж бы вы думалі? Праз нейкі час Сяргей зрабіўся адным з першых байцоў у роце. І вечарамі, пыхкаючы „казіную ножку“, ён ахвотна апавядаў аб тым, што здарылася з ім на політгадзіне, і заўсёды канчаў сваё апавяданьне так:

— Ужо скажу вам: нарады, што давалі мне за спаньнё, я перанёс хоць-бы хны. І не цераз іх я такім стаў, а ўжо вельмі-ж, братцы, дрэнная справа была з-за нейкіх там трох слоў ды непачышчанай вінтоўкі... Забілі, сукіны сыны .. але, дзякаваць яшчэ, што гэта было... у сьне...

Ц. М.

# ТВОРЧАСЬЦЬ НАШЫХ ПОЭТАЎ

## Каліна

Адарваўся лісток ад галінкі,
Бы ад матчыных цёплых грудзей...
Вецер рваў і круціў сірацінку,
Завіхрыў бяз жыцьця, без надзей...

Задрыжэла галінка ад болю:
„Ой, вярнеце, аддайце лісток!..
Ці-ж на то калыхала ў прыполе,
Каб прапаў і загінуў... за што?!

Кроўю, кроўю сваёю карміла,
Так прыгожы, зялёненькі рос...
Ой, лісточак, сыночак мой мілы,
Ой, вярніся—засохну ад слёз!“

І чарнела, чарнела галінка,
Засыхала ад мукі, тугі...
Пахінулася долу калінка,
Асыпала расу на лугі...

* * *

Але сонца зірнула з-за хмараў
І паслала праменьні уніз...
І зямля зноў жыцьцём стала марыць,—
Зашумела струменьню крыніц.

Ласкаталі каліну праменьні,
Ласкаталі пяшчотнай рукой,
Напаіла крыніца карэньні
Жыватворчай расіцай-вадой...

Ажыла зноў красуня-каліна,
Расьцьвіла ад пяшчот, цеплаты,
Прыбіралася хмельнай дзяўчынай,
Заплягала у косы лісты...

* * *

Так і ты, Беларусь, шчыр-калінай
Пагубляла найлепшых сыноў...
Але сонца сказала: „Ня згінеш!
Адхінешся ад злыдняў, ад сноў“...

І дыхнула праменьнем гарачым,
Страсанула зацішша дуброў...
Расьцьвіла ты калінай юначай...
Не астыгне гарачая кроў!

**Ізраіль Плаўнік.**

Студзень 1926 г.

## Марознаю ноччу.

Ніколі ня бываю вясёлы,
Ніколі так ня жмурацца вочы,
Ды і думка так ня вяслуе,
Як марознаю зімняю ноччу.
О, марозная ноч! ноч чароўная!
Колькі радасьці ў сэрца ўліваеш.
Ночка зорная, ты, бязумоўна,
Мне аб будучым шчасьці сьпяваеш.
А люблю я марозную зіму!
Комсамольская песьня нясецца гучней:
„Але справа магутнага КІМ‘у
Не памрэ, будзе вечна квітнець.“
Гэта-ж мы, комсамольцы, сьпяваем,
Ідзем з чыткі. Вучыліся ў школе.
Ды чаго у жыцьці ня бывае,
А больш заўсягды ў комсамоле!
Эх, марозная зімняя ночка!
О, бліскучыя зораў праменьні!
Я—ўсясьветнага КІМ‘у сынок
Жыву для другіх пакаленьняў!

**С. Ярмак.**

17-І-1926 г.



# НЭП У ВЁСЦЫ

## Як Комуністычная Партыя і Савецкая Ўлада адносіцца да бедняка, серадняка і кулака

Заўсёды Комуністычная Партыя і Савецкая Ўлада звarачалі вялікую ўвагу на вясковую беднату, а ў апошнія часы гэтую ўвагу трэба нават яшчэ больш узмацніць. Мы добра ведаем, што нашы ворагі, а ў першую чаргу, вясковы кулак, пачне гаварыць серадняку, што цяпер Савецкая Ўлада на яго (серадняка) махнула рукой, што ўся ўвага будзе зьвернута толькі на беднату, і, чаго добрага, бальшавікі пачнуць весьці работу, каб зноў організаваць камітэты беднаты, каб раскідаць нашу гаспадарку.

Такія гутаркі кулакі, бязумоўна, будуць весьці! Але беднякі і серадняки павінны разумець кулака і тое, што ён гэтым хоча сказаць. Раней за ўсё беднякі і серадняки ведаюць добра па сваёй уласнай практыцы, што камітэты беднаты былі організованы супроць кулакоў, якія ў цяжкія мінуты грамадзянскай вайны пачалі падбухторваць вёску супроць Савецкае Ўлады, спрабавалі падымаць паўстаньні супроць Савецкае Ўлады, організоўвалі бандыцкія атрады, каб разам з белагвардзейцамі стварыць фронт супроць Савецкае Ўлады ў кожнай вёсцы. Але організованая ў камітэты беднаты вясковая бедната пры падтрымані серадняка разьбіла кулака і гэтым зрабіла вялікую рэволюцыйную справу.

Камітэты беднаты ў свой час адыгралі вялікую гістарычную ролю, бо не здарма кулакі ў шмат якіх мясцох называлі іх „злыднямі“.

А ці праўда гэта, што Савецкая Ўлада зноў думае організоўваць камітэты беднаты?

Такія настроі, калі яны дзе-небудзь зьявяцца, зусім няправільныя, ня гледзячы на тое, хто іх выдумае—ці кулак, ці бядняк, бо яны ўсё роўна пойдуць на карысьць толькі кулака.

Чаму кулак можа загаварыць і напэўна загаворыць аб камітэтах беднаты? А гэта вельмі проста. Кулак жадае пасварыць бедняка з серадняком, каб узяць серадняка пад свой уплыў і кіраўніцтва, а тады ён, як кажуць у вёсцы, стане „панам“.

Партыя і Савецкая Ўлада ў апошнія часы з вялікай увагай адносіцца да бедняка для таго, каб яшчэ больш узмацніць сувязь і дружбу бедняка з серадняком, адгарадзіць іх ад кулака, каб яны цеснай сьцяной стаялі за неразрыўны саюз з рабочай клясай, за перамогу працоўнага люду, якая можа быць канчатковай пры актыўнай дапамозе бедняка і серадняка вёскі.

Але сераднік над уплывам кулака можа паставіць перад сабою пытаньне, чаму гэта ён абавязкова павінен ісьці толькі з рабочай клясай і бедняком, а не з кулаком.

Серадняку ісьці разам з кулаком, гэта значыць ісьці за панамі і багацеямі.

Хто-ж такі кулак? Гэта—маленькі панок у лапцях, які ўвесь час думае быць вялікім панам, эксплёататарам. І мы ведаем, што нават у царскія часы, калі селяніну бедняку і серадняку не давалі політычных праў, кулакі выбіралі сваіх упоўнаважаных у земства, дзе сядзелі, галоўным чынам, паны, і разам з імі распрацоўвалі законы аб тым, як лепш уціскаць бедняка і серадняка. Кулак гнуў і цяпер будзе гнуць тую лінію, каб зноў вярнуўся стары лад разам з панамі і багацеямі, каб зноў пачаць урадаваць бедняком і серадняком.

Але старое пакаленьне яшчэ жыве і добра помніць, як яму жылося тады, калі кіраваў багацей і кулак. І кожны серадняк скажа, што звароту да старога ня будзе.

За апошнія часы, калі дазволена доўгатэрміновая арэнда зямлі, вольны наём рабочае сілы, кулачча пачне разьвівацца. І калі мы не павялічым увагі да беднаты, дык кулакі шляхам пазычкі ёй грошай, коняй, плугу паставяць беднату ў гаспадарчую залежнасьць ад сябе, а такое становішча будзе на шкоду рэволюцыі. Бязумоўна, бядняк політычна ня пойдзе за кулаком, але тут другое можа стацца, што бядняк, будучы залежным ад кулака, будзе баяцца дзе-небудзь на сходзе выступіць супроць яго і будзе думаць: „Нашто выступаць супроць яго, ён у другі раз ня зробіць такой ласкі“.

А калі зьявяцца такія думкі ці размовы, значыць у кулака разьвязваюцца рукі для адпаведнай апрацоўкі серадняка.

Ці дапусьціць Комуністычная Партыя і Савецкая Ўлада такое становішча на вёсцы, якое-б замацавала позыцыі кулака? Гэтага ніколі ня можа быць дапушчана, і дзеля гэтага трэба ў цяперашні час больш удзяліць увагі бедняку. Гэта праца ўжо пачалася. Нідзе ў сьвеце бядняк не атрымлівае столькі дапамогі ад дзяржавы, як у нас.

Савецкая Ўлада ўвесь час прымае меры да палепшаньня становішча беднаты, і кожны бядняк вёскі добра ведае, што ніколі раней ня было і цяпер няма ўва ўсім сьвеце, дзе кіруюць багацеі і паны, такога становішча, каб вясковая бедната звальнялася ад дзяржаўных падаткаў. Няма яшчэ на сьвеце такой улады, апрача Савецкай, якая дармова ў першую чаргу сялян-беднякоў надзяліла зямлёй. Няма яшчэ такой улады, якая-б прыцягвала селяніна-бедняка да кіраўніцтва дзяржавай. Такім правам і становішчам вясковая бедната карыстаецца толькі пры Савецкай

Уладзе, і з гэтае прычыны бедната будзе заўсёды за Савецкую Ўладу.

Але мала даваць льготы, трэба падняць гаспадарку беднаты, уцягнуць беднату ў коопэрацыю і грамадзкую працу. Але пры хуткім узмацненьні кулака трэба прыняць усякія меры, каб шпарка падняць гаспадарку беднаты, разам з серадняком больш уцягнуць яе ў розныя віды коопэрацыі, якая, з аднаго боку, дапаможа хутчэйшаму разьвіцьцю і ўзмацненьню гэтай гаспадаркі, а з другога—паставіць коопэраваную гаспадарку, зьвязаную з прамысловасьцю, супроць кулацкай.

Пагалоўна коопэраваная гаспадарка бедняка і серадняка зложыць такую вялікую гаспадарчую моц, якая ня будзе баяцца ні прыватнага капіталу, ні кулацкай гаспадаркі.

Апрача гэтага, праводзячы працу па ўзмацненьні гаспадаркі беднаты, мы павінны былі распачаць працу па больш шырокім уцягваньні беднякоў у савецкія і грамадзкія ўстановы. Трэба прызнацца, што летась, пры перавыбарах саветаў, камітэтаў узаемадапамогі і коопэрацыі, вясковая бедната не ў здавальняючым ліку была ўцягнута ўва се гэтыя ўстановы і займала там няпрыкметнае месца. З гэтай прычыны трэба прыняць шэраг мер, каб бядняк ізноў заняў належнае яму месца. Пленум ЦК РКП пагэтаму пастанавіў:

„Пры правядзеньні політыкі ажыўленьня саветаў, уцягваньня ў іх працу шырокіх мас беднякоў, сераднякоў, партыя павінна асобную ўвагу аддаць на тое, каб згуртаваць вакол сябе беднату і весьці за сабой сераднякоў. Для гэтага ў часе выбараў і ў будучай працы саветаў (а таксама коопэрацыі і камітэтаў узаемадапамогі) неабходна праводзіць асобныя сходы беднаты, узяцца за організацыю ў вёсках і раёнах груп беднякоў (з абавязковым уцягненьнем у іх батрацтва), усемагчыма імкнуцца пры гэтым да супольнага з серадняком адстойваньня практычных мерапрыемстваў у працы саветаў, коопэрацыі, камітэтаў узаемадапамогі і да супольнага з серадняком высоўваньня кандыдатаў пры перавыбарах“.

Толькі пры ўдзеле беднякоў і сераднякоў можна будзе праводзіць лінію партыі на вёсцы. Лінія партыі і Савецкай Улады ў адносінах да бедняка, серадняка і кулака зьмяшчаецца вось у чым: на аснове разьвінутага НЭП'у ў вёсцы (арэнда зямлі, наём рабочай сілы, існуючы прыватны гандаль) даць магчымасьць разьвівацца гаспадарцы кулака, якую мы павінны скарыстоўваць так, як у горадзе кожнага прыватнага гандляра.

У вёсцы разьвівае сваю гаспадарку кулак, плаціць вялікі падатак дзяржаве, а грошы гэтыя Савецкая Ўлада можа скарыстаць для крэдытаваньня і ўзмацненьня гаспадаркі беднаты і сераднякоў.

Мы даем магчымасьць наладжваць і паляпшаць гаспадарку кулаку, але ў гэты час добра сочым, каб ён у вёсцы ня ўзяў політычнага кіраваньня, а такія выпадкі ўжо ёсьць і яны будуць павялічвацца разам з узростам яго гаспадаркі.

Для гэтага нам трэба раней за ўсё коопэраваць гаспадарку бедняка і серадняка, зьвязаць іх з дзяржаўнай прамысловасьцю, і нам ня будзе страшным кулак і гандляр.

Дапусьцім, што ў якой-небудзь сельскай грамадзе—200 сельскіх гаспадарак і сярод іх 10 кулакоў (5 проц.). Дапусьцім, што ў сярэднім кулацкая гаспадарка будзе мець вольных сродкаў 200 руб., тады ўсе кулакі ў гэтай грамадзе будуць мець 2.000 руб. Капітал як быццам вялікі, але, з другога боку, дапусьцім, што астатнія 190 гаспадарак грамады коопэраваны, і ў сярэднім кожны двор мае вольных сродкаў па 20 руб. Тады капітал апошніх будзе раўняцца 3.800 руб. А калі дадаць да гэтага, што ўсе гаспадаркі лічацца членамі коопэрацыі і ўнесьлі па 5 руб. з 10-разовую адказнасьцю ў іх, паявы капітал будзе складаць 5 руб.$\times$190=950 руб., і пад 10-разовую адказнасьць таварыства атрымала 9.500 руб. рознага крэдыту.

Такім чынам, свае сродкі 3.800 руб. плюс 9.500 р. крэдыту складаюць 13.300 руб. і атрымоўваем сілу куды большую, чым у кулакоў.

Дзеля гэтага, паўтараю, нам ня будзе страшны кулак, калі мы коопэруем гаспадарку бедняка і серадняка і зьвяжам яе (праз коопэрацыю) з гарадзкой прамысловасьцю.

Тады мы пойдзем па шляху соцыялістычнага разьвіцьця нашае гаспадаркі. Побач з гэтым, мы павінны ўцягнуць у ворганы саветаў, камітэтаў узаемадапамогі беднякоў і сераднякоў вёскі, высоўваючы пры гэтым больш актыўную частку беднаты і сераднякоў.

Тады мы захаваем пролетарскае кіраўніцтва будаўніцтвам вёскі і захаваем серадняка ад кулацкіх уплываў і павядзем яго ўперад разам з бедняком.

**Д. Прышчэпаў.**





# НАВУКА І ТЭХНІКА

## Як я пабудаваў радыёпрыёмнік

Адно дасягненьне ў галіне радыё адбываецца за другім. З кожным днём радыё ўсё больш і больш прасякае ў гушчы. Радыёперадачамі карыстаюцца ня толькі ў навуковых колах, а і ў штодзенным жыцьці грамады як дзеля забавы, так і з мэтай пашырэньня сваіх ведаў. Радыем захапляюцца ня толькі дарослыя, але і дзеці. Якраз гэтаму спрыяе і надта лёгкая пабудова прыёмніка—аб гэтым я чуў ад сваіх таварышаў і знаёмых, а сам ня разу яшчэ ня чуў перадачы. Нейк, нават і ня верылася.

Але вось раз пашоў я пад вечар да свайго таварыша, у якога ўжо быў зроблен прыёмнік. Надзеў гэта я на вушы трубкі і сам ня ведаў ад радасьці, што рабіць, калі пачуў, як нехта дзе-та грае.

Зацікавіўся я. Сябра даў мне кніжак пра радыё, і я пачаў чытаць. Далей пры дапамозе сябра выбраў самы просты прыёмнік (а яны ёсьць розныя) і пачаў рабіць.

Рабіў я вось як:

Папершае, я даведаўся, з якіх частак складаецца ўвесь радыёпрыёмнік, а складаўся ён з наступных частак: антэна, ад ёй провад, які ідзе да катушкі самоіндукцыі, а ад яе ўжо дрот ідзе ў зямлю.

Працу сваю пачаў я з катушкі самоіндукцыі. Рабіў я яе так, як нарысована на рыс. № 1.

Тут надта проста зроблена. Узята два кавалкі картону, якія склеіў у дзьве трубкі і абматаў дротам, грубінёю ў 0,2 міліметра, які быў абмотан ізоляцыяй.

Першая трубка (А) павінна быць даўжынёю ў 6 дзюймаў, а ў папярэчным разрэзе—2 дзюймы. Раней я купіў $^1/_4$ частку фунта меднага ізоляванага дроту, грубінёю ў 0,2 міліметра.

Спачатку зрабіў у трубцы дзьве маленькіх дзірачкі ў пункце, які на малюнку адзначан літарай $H_1$, якая ляжыць ад ле-




Мал № 1.

вага канца трубкі, прыблізна, на $^3/_4$ дзюйма. Некалькі разоў працягнуў канец тонкага дроту праз гэтыя дзіркі. Гэта робіцца дзеля таго, каб ён адным канцом




Мал. № 2.

у гэтым месцы трымаўся. Канец дроту, які на малюнку абазначан праз літару $W_1$, даўжынёю з фут, пакідаецца вольным. Пасьля гэтага трубка на працягу $^{11}/_{16}$ дзюйма абматываецца тымжа самым ізоляваным дротам. У час намоткі трэба сачыць, каб віткі клаліся адзін ля другога шчыльна і каб яны не лажыліся друг цераз дружку. На гэтай адлегласьці ўсяго павінна зьмясьціцца трыццаць тры віткі (якраз у мяне столькі і зьмясьцілася).

Пасьля таго, як наматаў ужо 33 віткі, канец дроту таксама працягваецца колькі разоў праз дзіркі, якія на малюнку адзначаны праз літару $H_2$, а астатні дрот, даўжынёю ў 1 фут, як і раней, пакідаецца вольным.

Гэта адна трубка, а вось другая.

Яна мае даўжыню $1^1/_8$ дзюйма, у папярэчніку $2^1/_2$ дзюйма. Зноў такім-жа чынам намотваецца. На гэтай трубцы намотваюць толькі 31 віток. Канцы $W_1$, $W_2$ пакідаюцца вольнымі, як і ў першай катушцы.

Вось і ўся катушка самоіндукцыі.

Да майго прыёмніка яшчэ патрэбен быў крышталёвы дэтэктар. Яго можна зрабіць самому, але я яго купіў, бо самому рабіць—дык „скурка вырабу ня варта", як, кажуць людзі.

Але льга і зрабіць. Робяць так. Бяром напарстак і ў ім расплаўляем прыпайку. Голы канец дроту $W_1$ укладваем у расплаўлены прыпай. Туды, покі прыпай ня стаў цьвёрдым, на версе кладзём кавалак сьвінцовага блеску—га-

лёну (галён трэба купіць у магазыне радыё-прылад).

Пасьля гэтага каля дроту $W_1$ на некаторай адлегласьці наматваецца другі тоўсты ізоляваны дрот дыямэтрам, прыблізна, на 1 мілімэтр. Канец дроту выгінаецца так, як паказана на малюнку. На канцы гэтага грубога дроту ізоляцыя адкідаецца, а прыплятаецца кавалак тонкага (0,2 м. м.) дроту, прычым гэтаму дроціку прыдаюць форму сьпіралі (сьпіраль можна зрабіць, наматаўшы дрот на аловак). Канец дроціку (S) прыстасоўваюць так, каб ён якраз датыкаўся паверхні крышталю С.

Усё гэта разьмяшчаецца такім чынам, як намалёвана на малюнку 3.




Мал. № 3.

Цяпер ужо можна злучыць паасобныя часткі. Дрот, які йдзе ад антэны, злучаецца з аднымз канцоў катушкі А. Другі канец гэтай катушкі злучаецца з пачаткам катушкі В, а канец гэтай катушкі злучаецца з дротам, якім йдзе ў зямлю.

Пасьля, пачатак катушкі А злучаецца пры дапамозе асобнага дроту з аднаго боку нашага самастойна зробленага дэтэктара, а другі бок злучаецца з адным з правадоў ад тэлефоннай трубкі.

Другі дрот тэлефоннай трубкі злучаецца з тым дротам, які ідзе ў зямлю.

Дзеля таго, каб пачуць сыгналы шырокавяшчацельнай станцыі, трэба катушку В павольна насоўваць на катушку А. Калі ня будзе чуваць, трэба катушку В зьняць з катушкі А, перавярнуць і зноў павольна пасоўваць і заставіць яе там, дзе будзе чуваць сама моцна.

Разам з гэтым трэба сачыць, каб канец дроціку S увесь час датыкаўся паверхні крысталя С.

Калі сыгналы будуць чутны, то трэба рукой перастаўляць кончык дроціку S па крысталю да таго часу, пакуль не знойдзеш самы лепшы пункт, самы чутнейшы.

Тэлефонную трубку спэцыяльна продаюць у магазынах, або годна трубка і ад звычайнага тэлефону.

**Антэна.**

Антэнай называецца дрот грубінёй ад 1-2 мілімэтраў нацягнуты дзе-небудзь высока ў паветры. Але яго трэба так нацягнуць, каб ток, які ён атрымоўвае, не



Мал. № 4.

пераходзіў туды, дзе прывязаны, а каб цёк па дроце, які ідзе да катушкі самоіндукцыі. Дзеля гэтага я зрабіў вось як. На будыніне паставіў жэрдку ў 4 сажні вышынёй, а каб яна лепш трымалася, у бакі парабіў адцяжкі з дроту. Дрот прывязаў да самага верху (невялікі кавалак мо' з сажань), а на канцы яго прычапіў ізоляваны ролік такім чынам, што да гэтага самага роліку я яшчэ прывязаў кавалак з аршын, і яны адзін аднаго не датыкаліся (рыс. 4) зрабіў штук са тры.

Гэта з аднаго канца было тры штукі. Таксама і ў другім канцы зрабіў, а пасярэдзіны медны дрот, даўжынёю ў 20-30 сажняў.

Да аднаго канца я прывязаў у жэрдкі, а другі перацягнуў на высокае дрэва, што стаяла недалёка ад нас.

Каб лягчэй было нацягваць, я на дрэве зрабіў блок.

Калі ўсё кончыў, дык у мяне атрымалася такім чынам:

Антэна была нацягнута з дрэва на жэрдку, што стаіць на хаце. Ад антэны ідзе дрот у хату да катушкі (рыс. 5), а ад яе злучаецца з дротам, які ідзе ў зямлю. Гэта дрот невялікі—даўжынёю аршын з 4, медны, грубінёю, як і антэна. Праводзіцца ён праз акно з будыніны ў зямлю на глыбіню аршына або аршын з паловай.

У канцы да земляного дроту прыпайваецца кавалак жалезнага ліста.

Просты я зрабіў прыёмнік, але чую, а праз некаторы час больш азнаёмлюся з радыё-справай і зраблю больш складаны, больш чуткі.

**Кастусь Юркевіч**



Мал. № 5.



# ВЁСКА Ў ПЕСЬНЯХ

## Чорнаморац

Гляну, гляну я ў аконца
Праціў яснага сонца,
Эх, праціў яснага сонца,
Ці ня ўбачу чорнаморца.

Чорнаморац з вайны едзе
Ды сямёра каней вядзе,
Эх! а васьменькі вараненькі
Ды як воран ён чарненькі.

Стаў ён коні напаяці,
Стала вада прыбываці,
Эх! стала вада прыбываці,
Чорнаморац патапаці.

Чорнаморац патапае
Ды на мілую гукае:
Эх! ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна ты любіла.

## Што й за месяц

Што й за месяц, што за ясны—
Ўночы сьвеціць, а ў дзень не;
Што й за міленькі дружочак—
Калі прыдзе, калі не...

Усе людзі, людзі кажуць,
Усе людзі гавараць:
Сорам, дзеўка, сорам, красна,
Позна вечарам гуляць.

Дзяўчынаньцы кепска стала,
Стала плакаць і ўздыхаць.
Хлапчынаньку шкода стала,
Стаў дзяўчыну сунімаць:

— Ня плач, дзеўка, ня плач, красна,
Прыду ў госьці да цябе,
Разгарыцца кроў гарача,
Вазьму замуж да сябе.

# КАЛОДНІКІ

На захадзе вечар румяны,
У полі квітнее кавыль,
Калоднікаў плачуць кайданы,
З дарогі ўздымаецца пыль.

Дзінь-бом, дзінь-бом,
Плача звон кайданаў;
Дзінь-бом, дзінь-бом,
Шлях Сібірскі дальні;
Дзінь-бом, дзінь-бом,
Па дарозе йдуць,
Нашага таварыша на катаргу вядуць.

Шагаюць з галёнымі лбамі,
Пужае разьмераны крок,
Суровыя сьціснуты бровы,
У думках раскінуўся змрок.

Дзінь бом, дзінь-бом і г. д.

Ідуць з імі доўгія цені,
Дзьве клячы хурманку вязуць,
Калені згінаючы з леньню,
Канвойныя побач ідуць.

Дзінь-бом, дзінь-бом і г. д.

Эх, хлопцы, чаго прывунылі,
Забудзем ліхую бяду,
Відаць, што такая ўжо доля
Напісана нам на раду.

Дзінь-бом, дзінь-бом і г. д.

І вось павялі, зацягнулі,
Сьпяваюць, сьпяваюць яны
Пра роднай краіны раздольле,
Пра дарам мінуўшыя дні.

Дзінь-бом, дзінь-бом і г. д.

Сьпяваюць пра роднае поле,
Пра дзікую волю пяюць,
Дзень гасьне ўсё болей і болей,
Кайданы дарогу мятуць.

Дзінь-бом, дзінь-бом,
Плача звон кайданаў,
Дзінь-бом, дзінь-бом,
Шлях Сібірскі дальні,
Дзінь-бом, дзінь-бом,
Па дарозе йдуць,
Нашага таварыша на катаргу вядуць.

# Жыцьцё моладзі

## Бярыце прыклад

*Віцебшчына.*

Вучні Дабрамысьленскай сямігодкі колектыўнай працай вельмі добра адсьвяткавалі дзень Леніна. Заля была ўвабрана лёзунгамі і зеленьню, наладжана выстаўка кніжок, выпушчана насьценная газэта, адчынен Ленінскі куток. Вечарам адбыўся спэктакль і прыняцьце культурнага шэфства над лясным заводам. На другі дзень—23 заложаны школьны коопэратыў і абрана праўленьне.

Шмат працавалі—шмат зрабілі, а зрабіўшы ўсё, разьехаліся на вакацыі.

**Ул. Кавалёў.**

## Чакаю адказу

Я дачуўся, што пры Смалявіцкай ячэйцы маецца політгурток актыву, што на занятках нельга ўседзець. Рогат, шум, неразьбярыха, стараста перадае на паседжаньне райкому вінаватых



у гэтым, кіраўнік гуртка запісвае за свавольства старасту, стараста, узлаваўшыся, запісвае кіраўніка і г. д. Што гэта там у вас робіцца? Ці-ж гэтак трэба праводзіць падрыхтоўку актыву? **Малады Араты.**

## Моладзь прачнулася.

*в. Будзіна, Суслаўкі с., Дрыбінск. р., Аршаншчына.*

Год назад наша вёска была цёмнай, ня відно было ані аднэй газэты. У гэтым годзе справа куды ляпей; у нас організован сельска-гаспадарчы гурток, драматычны. харавы гурток. Кожную суботу мы зьбіраемся ў школу, чы-



таем газэты, кніжкі. Драмгурток ставіць спэктаклі, на выручаныя грошы выпісваем газэты У вёсцы ёсьць хлопцы жадаюць уступіць у комсамол, але затым, што далёка ячэйка (6 вёрст), яны ня ўступаюць. Дрыбенскім Райкомам ужо намечана адчыніць у нашай вёсцы ячэйку ЛКСМБ. Ячэйка будзе. **Ц.**

## Сорам, хлопцы!

Ёсьць у Рагачэўскім раёне дзьве ячэйкі ЛКСМБ, дзе яшчэ дагэтуль няма „Маладога Ар тага“. Гэта Азяранская і Асаўнікская ячэйкі. Сорам,



хлопцы; трэба ўзяцца распаўсюджваць сваю комсамольскую часопісь. Трэба выкінуць лёзунг!—Няма комсамольца без часопісі „Малады Араты“.

**Я. Савіцкі.**

## Расьцём за лік бядняцкай моладзі

*в. Суслаўка, Дрыбінскі р., Аршаншчына.*

Наша ячэйка організавалася паўтара гады назад, тады як у нашым сельсавеце існавалі бандыты Дрэнна было працаваць у першы час. Ячэйка налічвала 4 сябры. Але вось прагналі бандытаў. наша ячэйка пачала расьці. Каб паглядзець, як расла ячэйка, варта прывесьці некалькі лічбаў: так, вясной 1925 г. было 8 сяброў, а да студзеня 1926 г.—налічвалася 35 сяброў. Заявы падаюць і цяпер. Мы прымаем больш беднякоў да батракоў, сераднякі-ж мала падаюць заявы.

Комсамолец **Ц. Рублёў.**

## Новая вячорка

*Вёска Заказінец, Смалявіцкага раёну.*

Дагэтуль у нас кожнае сьвята былі вечарынкі, на якіх моладзь буяніла, чулася ругня.

Але вось некалькі хлапцоў нашай вёскі перабудавалі вячорку на новы лад.

Зрабілі мы яе так. У міг зрабілі сцэну ў аднэй з хат. Па бакох завесілі посьцілкі, заслону то-ж з посьцілкі—і сцэна гатова!

„Хоць маленькая, але-ж на нашу вёску хопіць“...

Цэлы вечар ішла рэпэтыцыя. Комсамольцы былі на сёмым небе!

Назаўтра была пастаноўка. Невялікая хата была поўна набіта сялянамі. П'еса сашла добра. Сяляне хвалілі пастаноўку і прасілі комсамольцаў ставіць кожнае сьвята. Старэйшыя ра-




зышліся — моладзь асталася. Комсамольцы з'організавалі гульні ў політфанты.

За сталом хто хацеў чытаў газэты. часопісі, пелі рэволюцыйныя песьні.

Не пазнаць цяпер нашай вёскі і нашых хлопцаў. Аб самагонцы забыліся нават і думаць.

Вось як мы, комсамольцы з перадавікамі беспартыйнымі, за некалькі дзён перайначылі вечарынку.

**Янка Кім.**



З чым змагаецца „Малады Араты“.

## Комсамольцы сярод сялянства

*Вёска Заказіняц Смалявіцкі раён*

Летась у нас з'арганізаваўся сельска-гаспадарчы гурток. Арганізавала яго перадавая моладзь вёскі. Сяброў гуртка 18 і большая частка старэйшых.




Цяпер кожную нядзелю зьбіраюцца на заняткі, чытаюць газэты, кніжкі, гутараць аб сваім жыцьці.

Цікава, што кожны раз закранаюць пытаньне аб трактары і колектыўных гаспадарках.

Усю організацыйную працу вядзе моладзь. Комсамольцы выпрацоўваюць бяседы, чытаюць газэты і кніжкі ўслух, а потым разьбіраюць.

## Песьня паўстанца *)

Б'ем мы пана чым папала,
Абы гаду тут ня жыць.
Каб сьлядоў яго ня стала,
Песьняй трэба так-жа біць.

Біць ушчэнт чужынца-пана,
Біць прыслужнікаў благіх.
А іх логава пагана
Запаліць з бакоў усіх.

То-ж пладзіліся вякамі
Кроў блакітна, бела косьць,
Лезьлі з Польшчы павукамі—
Ня міне іх наша злосьць!

Будзем біцца мы з панамі,
Каб адбіць ахвоту ім
Грунт араці мужыкамі,
Край наш польшчыць, зваць сваім.

Хай ня хопіць нам аружжа,
Хай ня хопіць ў песьні слоў—
Ненавісьці маем дужа,
Будзем біць, пальлецца кроў.

*) Гэты верш друкаваўся ў газэце „Чырвоны Сьцяг“ № 1—орган Компартыі Зах. Беларусі.

## Гурток дапісчыка працуе

*Дукора.*

Пры Дукорскай хаце-чытальні организаваўся гурток селькораў і юнкораў над кіраўніцтвам настаўніка Шатэрніка. Праца пастаўлена добра, кожны раз прыход іць мно а вясковых хлопцаў, якія з захапленьнем слухаюць




даклад кіраўніка. Да гэтых часоў абгавораны пытаньні: што такое газэта, якое значэньне мае газэта, як трэба пісаць у газэту і што, як трэба распаўсюджваць газэту. Цяпер ужо відаць вынікі нашай працы, некаторыя хлопцы ўжо пішуць у газэты і асьвятляюць жыцьцё вёскі.

М. Залуцкі

# Будаўнік соцыялізму

Пецька Пулеў, як і большая частка вясковых хлапцоў в Лаянка, падаў заяву ў ячэйку аб прыняцьці яго ў комсамол, магчыма, толькі таму, што ўсе гэта робяць, ці, як кажуць, „па інэрцыі“. Магчыма, што ён жадаў атрымаць ад організацыі політычную сьвядомасьць і стаць організованым і сталым грамадзянінам—будаўніком соцыялізму. Як і належыць кожнай ячэйцы, і Лаянская ячэйка зсывала сходы, прычым дзеля хутчэйшай, мабыць, заваёвы соцыялізму часта на павестцы дня сходу ставіла пытаньні аб соцыялізму, не выкідаючы пры гэтым „штатнага“ аб міжнародным становішчы.

Пулеў, як і кожны комсамолец, прысутнічаў на ўсіх сходах і ўважліва выслухваў да канца даклады.

У адзін з саюзных дён прыехаў у ячэйку прадстаўнік Райкамолу, які зрабіў нябывалы ў ячэйцы даклад як аб міжнародным, так і аб унутрысаюзным становішчы. Ад гэтага дакладу ў лаянскіх хлапцоў засталіся, ня ведаю, па чыёй віне, такія ўражаньні, што ёсьць нейдзе на сьвеце волат з мянюшкай—Чэмбэрлен, які кіруе жыцьцём усяго сьвету, акрамя Савецкай Рэспублікі. Акрамя гэтага, засталося ў іх галаве, што нейкі балгарскі Цанкоў—палач народны, дадумаўся адразу забіваць па некалькі тысяч чалавек. Застанавіўшыся на ўнутраным становішчы, дакладчык доўга гаварыў, што перад кожным комсамольцам стаяць вялікія задачы: будаваць соцыялізм, паляпшаць сваю сельскую гаспадарку, перайсьці на шматпольле, завесьці племянную жывёлу, організаваць мэліорацыйнае таварыства па асушцы балот, гаварыў аб электрыфікацыі і наогул аб падняцьці культуры.

Пецьку Пулеву здалося, што гэты даклад закончыў яго адукацыю і што яе патрэбна прымяніць на практыцы.

Адбылося гэта таму, што дакладчык увесь час глядзеў і накіроўваў у бок, Пулева гарачыя заклікі ці з якой другой прычыны—невядома, але вялікія і вумныя словы зрабілі свой уплыў.

Але ўплыў вялікіх слоў дакладчыка на малады розум Пецькі быў інакшы. Пецька Пулеў—вясковы хлопец, толькі ўступіўшы ў комсамол, без малой політычнай асьветы зразумеў мову гарадзкога дакладчыка па-свойму.

Каб не адкладваць пабудову соцыялізму, ён зараз-жа, прышоўшы ў хату, рашуча зьвярнуўся да бацькі:—Мы з табой, тата, пачнем будаваць соцыялізму, ты мне памажы завесьці племяннае шматпольле, мільённае жывёлаводзтва, таварыства па электрыфікацыі балот.

Як не разумеў хлапец добра слоў на сходзе, так і цяпер не разумеў ён, чаго на яго сталі ўсе дзіўна глядзець. Не разумеў ён, чаго яны адразу зарагаталі. Таксама не разумеў ён, чаму маці прыклала далонь да лобу яго і запытала:—Ці ня хворы ты?

Магчыма, што ён заразіўся хваробай дакладчыка.

Аршаншчына. М.

# ПЕРАПІСКА З НАШЫМІ СУПРАЦОЎНІКАМІ




**М. Шуляку**—Абразок „Урачыстасьць гымнаў“ атрымалі. Зьмесьцім у вадным з чарговых нумароў нашае часопісі. Чакаем п'есу „Новабранцы“.

**Гарбацэвічу**—П'еса „Малады партызан Муха“—слабая. Друкавацца ня будзе, папершае, таму, што занадта вялікая (11 дзей!), 23 асобы, што прымаюць удзел у п'есе, аніводзін з вясковых драмгурткоў выставіць ня зможа. Ня варта было прыстасоўваць для сцэны аповесьць Анатоля Вольнага „Два“ ўсю; дзеля твае п'есы, якая разьлічана на вясковы тэатр, трэба было ўзяць два-тры характэрныя моманты, ад сябе пашырыць іх, надаць ім сцэнічнасьць, бо вышла ў цябе так, што ты проста перапісаў у васобах гутаркі гэрояў аповесьці. Частушкі скарыстаем.

**Ул. Кавалёву**—На вялікі жаль, прысланае табою апавяданьне ня пойдзе. Трэба больш грунтоўна апрацоўваць свае творы. Чаму пішаш на абодвух бакох паперы? Трэба заўжды памятаць рэдакцыйнае правіла: „пішэце на адным баку, другі пакідайце чыстым“. Малады Араты аплачвае гонорар за надрукованыя вершы, апавяданьні, п'есы, артыкулы і дописы.

**Ціхаму**—Частушкі і верш „Вучусь“—слабыя. Пісаць ня кідай. Супрацоўнікам залічылі. Як у вас абстаіць справа з падпіскай на „М. Араты“?

**Аркадзю Чарнушэвічу**—Верш твой „Сябры“—слабы, зьмяшчаць ня будзем. Чытай маладнякоўскія творы, на іх вучыся.

**Аляксею Кулакоўскаму**—Верш „У пост зімою“—слабы. У ім ты спачатку пішаш, што ў царкве была ўсяго адна баба, а праз радок—поп і стараста пялі, покуль не сабралі рублёў са сто. Ці-ж гэта верш, калі ні зьместу, ні рыфмы, ні мілагучнасьці ў ім няма? Вось напішы лепей допіс аб жыцьці моладзі вашай вёскі, як ваша моладзь змагаецца за новы быт.

**Рыгору Лынькову**—Тваё вершы атрыманы. Два з іх: „Я бачу Леніна“ і „Зарунела“, апрацаваўшы, скарыстаем з працягам часу. Інсцэніроўку шлі; прачытаўшы, мо' і надрукуем—нечага нават было і пытацца пра гэта—„ці слаць“. Падпіску (грошы) на „Малады Араты“ разам з адрасамі падпісчыкаў перасылай па пошце альбо праз аддзяленьне Белдзяржвыдату Выдавецтву „Чырвоная Зьмена“ (Менск, Савецкая, 63).

**Юнкору** *(Грозава)*—Даручаем узяцца за распаўсюджаньне „М. Аратага“ сярод вучняў праз падпіску. Калі грошай ня маеш, допісы можна перасылаць бяз маркі, рэдакцыя выкупляе допісы і бяз марак.

**Да ўсіх нашых чытачоў.**

З вялікай прыемнасьцю рэдакцыя „Маладога Аратага“ запэўняе сваіх чытачоў, што справа з выданьнем і распаўсюджаньнем нашай часопісі з гэтага часу наладжана добра, і часопісь будзе выходзіць рэгулярна—два нумары на месяц, часам мо' і з маленькім спазьненьнем, але ўжо па віне выключна тае друкарні, дзе часопісь друкуецца.

**Цішку Шпаку**—Абмяжованасьць у сродках не дазваляе „Маладому Аратаму“ друкаваць лішнія экзэмпляры часопісі. Друкуецца толькі такі лік, колькі падпісчыкаў.

**Заслаўскаму**—Чакаем больш грунтоўных допісаў.

**Аўтару** допісу „Няма дысцыпліны“ (Чэрыкаўскі раён).—Твой допіс перасланы на расьсьледваньне ў Чэрыкаўскі Райком ЛКСМБ.



Рэдактары: Іл. Барашка. Д. Ратнэр.

1-я друк. БДВ. Зак. № 1821. Галоўлітбел № 16247.

рочыць знамя комсамолу. Бязьлітасная барацьба з гэтымі недарэчнасьцямі і ўстанаўленьне правіловых узаемаадносін паміж комсамолам і савецка-партыйнымі органамі,—вось задача.

Неабходна, каб комсамольскі актыў у вёсцы ведаў пра саюз рабочых і сялян, аб значэньні гэтага саюзу, аб дыктатуры пролетарыяту, аб асновах комунізму, нарэшце аб гісторыі Кастрычнікавае рэволюцыі і аб тым, як жылі сяляне раней, пры цары і памешчыку, як жывуць яны цяпер і як яны будуць жыць пры ўмовах замацненьня смычкі і разьвіцьця соцыялізму. Актывісты-комсамолец не павінен падладжвацца да прэдрассудкаў селяніна. Лічыцца з гэтымі прэдрассудкамі і падладжвацца да іх—гэта дзьве розныя рэчы. Ён павінен умець гаварыць з селянінам языком комуністага. Ён павінен умець убядзіць селяніна на конкрэтных фактах, што без соцыялізму няма для яго спасеньня. 100.000 комсамольскага актыву ў вёсцы—гэта такая моц, для якой ня можа быць пагрозным ніякі наплыў сялянскай моладзі. Уся справа ў тым, каб павесьці шпаркую працу по політычным выхаваньні гэтага актыву. Уся справа ў тым, каб умела накіроўваць працу гэтага актыву на справу ўзмацненьня саюзу рабочых і сялян. Уся справа ў тым, каб выкарыстоўваць гэты актыў для прыцягненьня сялянства ў новае, савецкае, будаўніцтва.

Дзеля гэтага неабходна, у першую чаргу, задаволіць вясковы комсамольскі актыў адпаведнай популярнай літаратурай і ўказаньнямі па ўсіх пытаньнях.

---

# ЗЬМЕСТ.

Ці падпісаўся? —●●●

— на —

1926 год

на двухтыднёвую часопісь сялянскай моладзі

# „МАЛАДЫ АРАТЫ“



**ОРГАН**

**Цэнтральнага Камітэту Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.**



**Умовы падпіскі—з дасылкаю да хаты:**

на 1 месяц — 15 кап.,
на 3 месяцы—45 кап.,
на 6 месяцаў—90 кап.



**Падпіска прымаецца**

ў Менску Контрагэнцтвам друку (Савецкая, 63) і ў провінцыі—усімі аддзяленьнямі Бел. Дзярж. Выдавецтва, агэнтамі і ўпоўнаважанымі, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі.



„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб політыцы, высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—дае парады сялянскай моладзі, у каго вывучыцца, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—вядзе барацьбу за новую вёску, змагаецца з усімі дрэннымі бакамі жыцьця вёскі.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—для сялянскае моладзі высьвятляе жыцьцё і працу моладзі гораду.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаных з працаю вёскі.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

„**МАЛАДЫ АРАТЫ**“—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, „Маладняк“, так і інш.